# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

24 ВЕРАСНЯ 1992 г. чацвер № 192 (21970)


**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.57, 19.05, 12.08;
Віцебск — 6.47, 18.56, 12.09;
Магілёў — 6.47, 18.55, 12.08;
Гомель — 6.46, 18.50, 12.04;
Гродна — 7.14, 19.18, 12.04;
Брэст — 7.13, 19.21, 12.08.

**МЕСЯЦ:**
Апошняя квадра
19 верасня

**ІМЯНІНЫ:**
Хвядоры, Сяргея, Германа, Дзмітрыя, Іі.

# Канкурэнтаздольнасць і сацыяльная стабільнасць

***Выступленне Станіслава Шушкевіча на міжнародным кангрэсе ў Германіі***

**Як паведамлялася раней, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч прыняў удзел у міжнародным кангрэсе «Еўропа і свет у пераломны момант», што праходзіў у нямецкім горадзе Вольфсбургу.**

**Арганізатар кангрэса — супольніцтва «Ініцыятыва міжнароднага партнёрства», заснаванае ў 1990 годзе па пачыну буйнейшых нямецкіх карпарацый. Папярэднія два кангрэсы і сёлетні імкнуцца аб'яднаць намаганні вышэйшых сфер палітыкі, прадпрымальніцтва і навукі ў пераадоленні цяжкасцей, што перашкаджаюць развіццю сучаснай цывілізацыі.**

**Прамова лідэра нашага парламента, прасякнутая клопатамі аб стабільным развіцці суверэннай Беларусі і актывізацыі яе ўключэння ў еўрапейскую эканамічную інтэграцыю, была сустрэта з выключнай увагай і прыязнасцю. Прапануем чытачам тэзісы выступлення Станіслава Шушкевіча.**

Пан старшыня, дамы і панове!

Палітычныя рэаліі фарміруюць новыя ўмовы ажыццяўлення эканамічных рэформ у краінах СНД. Асноўныя, можна сказаць, стратэгічныя складанасці ў нас аднолькавыя, таму я паспрабую раскрыць тэму, абмяжоўваючыся ацэнкай сітуацыі толькі ў Рэспубліцы Беларусь.

Мы стварылі базіс грамадства, будучы вульгарнымі матэрыялістамі. Нават тыя ўзровень і якасць жыцця, якія ў нас ёсць, даліся шырокім масам вялікай цаной.

Фактычна, наш менталітэт не зведаў кардынальных змен: па-ранейшаму мы стараемся вырашаць праблемы на ўзроўні неабальшавіцкай свядомасці, кідаючыся з адной крайнасці ў другую.

Да гэтага нас падштурхоўваюць:

— нецярпенне ўласнага народа, якое ўзмацняецца сацыяльнымі групамі, што імкнуцца прыйсці або вярнуцца да ўлады. І як гэта ні дзіўна

— нецярпенне Захаду, які часта, сам таго не ўсведамляючы, ускладвае надзеі, ініцыіруе і падтрымлівае структуры, якія толькі імітуюць дэмакратызм поглядаў і дзеянняў.

Няўмеранасць ультра-рэфарматараў — шлях да крушэння, асабліва пры наяўнасці сіл у гэтым зацікаўленых.

Не знята з парадку дня старая палітыка шантажу: раней яна вялася з пазіцыі сілы, цяпер—на аснове драматызацыі сітуацыі і запалохвання свету шырокамаштабнай югаславізацыяй.

Нярэдка вынікам такога шантажу з'яўляецца дапамога, якая не садзейнічае станаўленню здаровай эканомікі, а толькі падтрымлівае ўтрыманства.

Перабудова ў СССР, задуманая як спосаб удасканалення «сацыялізму», развівалася не па намечанаму сцэнарыю: дазіроўка галоснасці і дэмакратыі выйшла за межы дазволенага кіраўніцтвам кіруючай партыі. Да ўлады прыйшлі людзі, частка з якіх не прайшла праз сіта партыйнай селекцыі кадраў. Яны шчыра імкнуцца да рэарганізацыі інфраструктуры грамадства, заканадаўчага забеспячэння лагічных прынцыпаў пабудовы здаровай эканомікі.

Законная канстытуцыйная ўлада Рэспублікі Беларусь атрымала ў спадчыну адносна развітую эканоміку, зарыентаваную пераважна на выпуск гатовай прадукцыі з сыравіны і кампанентаў, што пастаўляюцца з усіх былых рэспублік СССР. Таму мы найбольш востра адчуваем усе цяжкасці ў рэгіёнах былога Саюза. Калі ж улічыць, што ўсё гэта адбываецца на фоне вынікаў Чарнобыля, 70 працэнтаў радыеактыўных выкідаў якога выпала на Беларусь, што выключыла са сферы аптымальнага землекарыстання 22 працэнты тэрыторыі рэспублікі і прымусіла перасяліць 100 тысяч жыхароў з 10-мільённага насельніцтва рэспублікі, то стануць зразумелымі тыя ўмовы, у якіх мы рэарганізуем эканоміку, дабіваемся канкурэнтаздольнасці і сацыяльнай стабільнасці.

Мэта пераўтварэння эканомікі — пераход да рыначных адносін і, як вынік, забеспячэнне безінфляцыйнага росту эканамічных паказчыкаў.

Абавязковыя ўмовы дасягнення мэты:

а) макра- і мікраэканамічная стабілізацыя,

б) лібералізацыя цэн, разняволенне ўнутранага і знешняга гандлю,

в) хуткія сістэмныя пераўтварэнні рыначнага характару.

Цэны на тавары, рэалізуемыя на ўнутраным рынку СНД, будуць няўхільна набліжацца да сусветных, і Беларусь павінна быць гатова плаціць за нафту, метал і іншыя рэсурсы па сусветных цэнах.

Трэба будзе правесці селекцыю вытворчасці, знізіць яе залежнасць ад знешніх паставак рэсурсаў і паслуг на знешніх рынках. Рэспубліка павінна весці строгі рэжым эканоміі валюты і ўсяго, за кошт чаго могуць быць ажыццёўлены тэхналагічная рэканструкцыя вытворчасці, выхад на сусветны ўзровень.

Шэраг нашых вытворчасцей выпускаюць канкурэнтаздольныя на сусветным рынку тавары. Значная частка прамысловых прадпрыемстваў Беларусі таксама змагла б ужо ў бліжэйшы час выпускаць такую прадукцыю.

Аднак для гэтага патрэбны інвестыцыі. У радзе выпадкаў — мінімальныя! Мы ўсведамляем, што вырашыць нашы праблемы за кошт знешняга інвесціравання нерэальна. Але разглядаем гэты працэс даволі зацікаўлена з пункту гледжання аб'ектыўнага паскарэння праводзімых сістэмных пераўтварэнняў.

Фінансавая палітыка Рэспублікі Беларусь павінна фарміраваць рыначную сістэму абарачэння грошай, абмяжоўваючы грашова-крэдытную экспансію, зніжаючы інфляцыю і каардынуючы дзеянні з іншымі дзяржавамі, перш за ўсё членамі СНД.

У ліку асноўных мэт фінансава-бюджэтнай і крэдытнай палітыкі рэспублікі:

— прадухіленне спаду вытворчасці праз зніжэнне ставак падаткаў і расшырэнне сферы крэдытавання;

— удасканаленне падаткаабкладання, пераарыентацыя яго з фіскальных на матывацыйныя мэты, якія садзейнічалі б ажыўленню дзелавой актыўнасці;

— змяншэнне датацыйнай нагрузкі на бюджэт, замяшчэнне часткі бюджэтных асігнаванняў іншымі крыніцамі;

— скарачэнне бюджэтнага дэфіцыту да прымальнага ў сусветнай практыцы ўзроўню;

— стрымліванне росту сукупнай грашовай масы ў абарачэнні і абмежаванне на гэтай аснове тэмпаў інфляцыі (к сярэдзіне 1993 года да ўзроўню 7—9 працэнтаў у месяц);

— павышэнне з улікам тэмпаў інфляцыі ўзроўню дысконтнай крэдытнай стаўкі;

— кантроль банкнотнай эмісіі;

— сістэма сацыяльнай абароны;

— рашучае скарачэнне расходаў на абарону.

Спалучэнне, з аднаго боку, сучасных вытворчых магутнасцей і кваліфікаванай рабочай сілы, з другога, залежнасць ад імпартных паставак і неабходнасць пошуку новых рынкаў збыту вызначаюць характар правядзення структурнай перабудовы.

Структурная перабудова мае прыярытэт перад такімі састаўляючымі працэсу трансфармацыі, як, напрыклад, прыватызацыя, развіццё рыначнай інфраструктуры або лібералізацыя цэн.

Для яе ажыццяўлення трэба прыняць палітычныя рашэнні: аб суадносінах бюджэтных сродкаў на мэты гэтай перабудовы і сацыяльнае забеспячэнне; аб фінансавай падтрымцы асобных галін; аб палітыцы даходаў і стымулявання зберажэнняў.

Мы арыентуемся на вырашэнне трох ключавых праблем: дзяржаўнае рэгуляванне, прыцягненне інвестыцыйных рэсурсаў, выкарыстанне і стварэнне стымулаў, накіраваных на рэалізацыю даўгачасных інтарэсаў.

Рэспубліка бачыць свае стратэгічныя перавагі ў выпуску складанай працаёмкай і навукаёмістай прадукцыі, і прадпрыемствам, якія развіваюцца ў рамках выбранай мадэлі, будзе аказана падтрымка.

На працягу пераходнага перыяду дзяржава будзе садзейнічаць развіццю прыватнага сектара.

**ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ І ДЭМАНАПАЛІЗАЦЫЯ**

У Беларусі сфарміраваны спецыфічныя для планава-каманднай эканомікі структуры вытворчасці, размеркавання, занятасці і спажывання, якія дыяметральна процілеглыя адпаведным структурам рыначнай эканомікі.

Узнаўленне прадукцыі і цэны з'яўляюцца вынікам, а не прычынай існавання нашай планавай эканомікі. Таму змяненню падлягае аснова!

Памылкай «шокавай тэрапіі» было наіўнае чаканне павелічэння прапанавання тавараў прадпрыемствамі абагуленага сектара ў адказ на лібералізацыю цэн. Рост цэн на сыравіну і матэрыялы выклікаў не зніжэнне вытворчых выдаткаў і не павышэнне эфектыўнасці гаспадарання, а ўзвінчванне цэн на канчатковую прадукцыю і скарачэнне абсалютных аб'ёмаў вытворчасці.

Звязаная з гэтым адсутнасць банкруцтваў і больш маруднае, чым абсалютнае зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці, скарачэнне ў сферы занятасці даказваюць, што сама па сабе лібералізацыя цэн не прывяла да адчувальных станоўчых змяненняў у структуры рынку працы, сферы спажывання і вытворчасці.

За высокімі цэнамі тояцца ранейшая неэфектыўная структура занятасці і неэфектыўная структура ўзнаўлення прадукцыі, а таксама яны не садзейнічаюць рэальнаму сістэмнаму рэфармаванню ў бок рынку.

Таму неабходна тэрміновае стварэнне суб'ектаў рынку, а таксама адаптацыйнага механізма рыначнага рэагавання гэтых суб'ектаў на знешнія ў адносінах да іх рыначныя імпульсы.

На ўсіх іерархічных узроўнях кіравання становіцца зразумелым, што для рыначнай эканомікі неабходна прыватная ўласнасць на ўсе віды рэсурсаў, строгая эканамічная дысцыпліна рынку капіталу і каштоўных папер, жыццяздольныя працэдуры прававой адказнасці і рэальны механізм санацыі і банкруцтваў неэфектыўных прадпрыемстваў.

Працэс прыватызацыі ўключае стварэнне дакладнай сістэмы юрыдычных абавязацельстваў, якія абараняюць правы прыватных уласнікаў: рэалізацыю працэдур банкруцтваў, якія забяспечваюць жорсткасць бюджэтных абмежаванняў, стварэнне дзейсных механізмаў, што паралізуюць дзеянні «ценявой» эканомікі.

Неабходна разумна абмежаваць аб'ём перадаваемага працоўным калектывам на льготных умовах пакета акцый, таму што фірмы, у якіх акцыі належаць у асноўным сваім жа рабочым, акажуцца ізаляванымі ад рынкаў капіталу.

Хуткая прыватызацыя наўрад ці будзе магчымай у сферы не «замкнёнай» на спажывецкі рынак. Для большай часткі буйных фірм неабходны пераходны этап, камерцыялізацыя або станаўленне прадпрыемства як фінансава і кіраўніцка аўтаномных суб'ектаў у рамках дзяржаўнай формы ўласнасці.

Стэрэатыпы існуючай 75 гадоў ураўняльнай псіхалогіі і атаясамлівання зніжэння жыццёвага ўзроўню ў апошнія гады з дзейнасцю прадпрымальніцкага сектара параджаюць пэўныя складанасці пры распрацоўцы дзяржаўнай праграмы падтрымкі і развіцця прадпрымальніцтва.

**ЗНЕШНЕЭКАНАМІЧНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ**

Рэспубліка аказалася неабароненай на асноўных рынках сыравіны і збыту прадукцыі. Раней паступленні імпартнай прадукцыі перавышалі нашы экспартныя магчымасці і фінансаваліся з саюзных крыніц, што было лагічным, таму што толькі ў Расію пастаўлялася больш як 67 працэнтаў вырабляемай у рэспубліцы гатовай прадукцыі. Акрамя таго, сама па сабе Беларусь мае толькі зародкі інфраструктуры знешнеэканамічнай дзейнасці пры вострым дэфіцыце кваліфікаваных кадраў.

Пачынаючы з 1993 года істотна скарачаецца пералік тавараў і паслуг, экспарт якіх падлягае ліцэнзаванню і кваціраванню.

Дзяржаўнае рэгуляванне знешнеэканамічнай дзейнасці ў цэлым будзе ажыццяўляцца на прынцыпах выбарчага пратэкцыянізму, усямернага садзейнічання ўсім відам экспарту і імпарту капіталаў, прызначаных

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# РОЗГАЛАС

## БУДЗЕ ХЛЕБ, БУДЗЕ І ПЕСНЯ

ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. **(У. Пернікаў).** Тут поўным ходам ідзе сяўба азімых, якія ў сёлетнюю засуху вельмі выручылі вобласць. Валавы збор збожжа склаў 1.220 тысяч тон — на кожнага жыхара вобласці па 757 кілаграмаў.

І хоць гэта неблагі паказчык, для поўнага задавальнення патрэбнасцей неабходна закупіць яшчэ 370 тысяч тон. Таму, каб быць з хлебам на будучы год, вырашана расшырыць азімы клін. Калі па першапачатковаму плану ён намячаўся ў 175 тысяч гектараў, дык зараз гэта лічба перагледжана ў бок павелічэння на 12 тысяч. Вядома, будзе хлеб, будзе і песня.

## МЯСА МЕНШ, ГАРЭЛКІ БОЛЬШ

МІНСК. Паводле даных Мінгарстатупраўлення, за студзень—жнівень гэтага года выпрацоўка мяса ў сталіцы Беларусі знізілася на 9.323 тоны і склала 28.478 тон, вытворчасць каўбасных вырабаў скарацілася на 3.695 тон, масла — на 49, малочнай прадукцыі — на 27.199, рыбнай прадукцыі — на 5.473, кандытарскіх вырабаў — на 8.875, маргарынавай прадукцыі — на 12.517 тон. Выпечка хлеба і хлебабулачных вырабаў у студзені — жніўні гэтага года склала 106.950 тон і ўзрасла ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года на 4.302 тоны. У той жа час вытворчасць гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў павялічылася на 195 тысяч дэкалітраў і склала 1.965 тысяч дэкалітраў.

## ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ:

### «ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ» ДЗЕЦІ

Лячэнне і адпачынак зараз неабходны больш як паўмільёну дзяцей Беларусі, якіх закранула ў большай ці меншай ступені чарнобыльская бяда. Аднак за мяжу мы маем магчымасць адправіць толькі каля 20 тысяч. Таму паўстала пытанне стварэння ўласнай аздараўленчай базы. Германскія фірмы прапанавалі пабудаваць на Беларусі сетку вучэбна-аздараўленчых комплексаў на 500 дзяцей, якая абыдзецца ў 30 мільёнаў долараў. Такіх грошай рэспубліка сёння не мае, таму стварэнне комплексаў будзе весціся на базе ўжо існуючых санаторыяў.

## ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**Мы не ўтойваем свайго хвалявання наконт падпіскі. Ёсць падставы для надзеі, што «Звязда» стане сапраўды народнай газетай. Між тым, нам важныя не лічбы, а чытачы. За радкамі зводкі мы бачым вас, дарагія нашы землякі. Нягледзячы на тое, што пачалася падпіска на будучы год, многія з вас вырашылі не разлучацца з нашай газетай і падпісаліся на яе на тыя месяцы года, што засталіся. Нам паведамілі, што з ліпеня «Звязду» выпісалі дадаткова 3.429 чытачоў, са жніўня — 1.999, з верасня — 83.**

**Мы дзякуем нашым падпісчыкам, жадаем ім здароўя, шчасця і непахіснай веры ў будучыню.**

**Рэдакцыя.**

## У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

22 верасня на пасяджэнні Кансультатыўнага савета беларускага парламента разгледжаны законапраекты па пытаннях права ўласнасці на зямлю, страхавання, дзяржаўнай экалагічнай экспертызы, аховы здароўя грамадзян.

Прынята рашэнне рэкамендаваць чарговай сесіі да слухання ў другім чытанні праект Закона «Аб праве ўласнасці на зямлю» і ў першым чытанні — праект Закона «Аб страхаванні».

Пастаяннай камісіі па пытаннях экалогіі і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў прапанавана абмеркаваць магчымасць уключэння палажэння аб дзяржаўнай экалагічнай экспертызе ў праект Закона «Аб ахове навакольнага асяроддзя ў Рэспубліцы Беларусь».

З прычыны таго, што ўрадам недастаткова кваліфікавана, на думку народных дэпутатаў, падрыхтаваны законапраект «Аб ахове здароўя грамадзян», члены Кансультатыўнага савета ўнеслі прапанову не ўключаць гэтае пытанне ў парадак дня маючай адбыцца сесіі.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь— БЕЛІНФАРМ.**

## У ДОМЕ ЎРАДА— БАНКІРЫ ІЗРАІЛЯ

Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч прыняў у Доме ўрада групу кіраўнікоў вядучых банкаў Ізраіля. У ходзе сустрэчы абмеркаваны планы рэалізацыі дагаворанасцей у галіне фінансавага супрацоўніцтва, дасягнутых у час візіту беларускай урадавай дэлегацыі ў Ізраіль у маі гэтага года. Асаблівая ўвага ўдзелена стварэнню міжнароднага фонду па страхаванню інвестыцый у эканоміку Беларусі.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь —БЕЛІНФАРМ.**

## КАЗАХСКІ ХЛЕБ— БЕЛАРУСІ

У адпаведнасці з пагадненнем паміж Беларуссю і Казахстанам аб пастаўках збожжа ў нашу рэспубліку, падпісаным у Алма-Аце прэм'ер-міністрам Вячаславам Кебічам, у Кустанайскай вобласці пачата адгрузка хлеба. У адрас Беларусі адпраўлены першыя вагоны з 500 тонамі збожжа новага ўраджаю.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь —БЕЛІНФАРМ.**

## «АРБІТУ» БУДЗЕМ КУРЫЦЬ КІЛАГРАМАМІ

Некаторы час назад «Звязда» паведамляла аб тым, што, паводле слоў работнікаў Гродзенскай табачнай фабрыкі, з-за адсутнасці паперы на пачкі цыгарэты будуць прадавацца на вагу. І вось гэтая інфармацыя пачала знаходзіць пэўнае пацвярджэнне. У магазінах Баранавіч, Мінска і некаторых іншых гарадоў рэспублікі пачалі прадавацца цыгарэты «Арбіта» па цане 726 рублёў за кілаграм. Кемлівыя курцы падлічылі ўжо, што са 100 грамаў атрымліваецца пяць пачкаў, а адзін пачак абыходзіцца ў 14 рублёў 50 капеек, між тым як у камерцыйных кіёсках ён каштуе 25—40 рублёў.

## КУРГАН-ЦЮБЭ: СМЕРЦЬ БЕЛАРУСКАГА КІНАРЭЖЫСЁРА

**У ТАДЖЫКІСТАНЕ ТРАГІЧНА ЗАГІНУЎ АРКАДЗЬ РУДЭРМАН.**

Гэта адбылося пазаўчора на адной з аўтадарог на граніцы з Курган-Цюбінскай вобласцю. Паводле папярэдніх звестак расійскіх ваенных, прычынай трагедыі стала аўтамабільная катастрофа. Калега Аркадзя Рудэрмана, Юрый Гарулёў, паранены і дастаўлены ў шпіталь.

Таленавітаму беларускаму дакументалісту было толькі 42 гады. У Таджыкістане ён здымаў вайну. І стаў ахвярай гэтай вайны. Менавіта вайны, а не няшчаснага дарожнага здарэння. Каб сцвярджаць так, дастаткова хоць аднойчы ўбачыць дарогу ў зоне канфлікту. Дарогу, рух па якой нікім і нічым не рэгламентаваны і па якой вадзіцелі пад пастаяннай пагрозай абстрэлу імчацца з шалёнай скорасцю.

Аркадзь Рудэрман доўгі час працаваў на «Тэлефільме», потым — на «Беларусьфільме» ў студыі «Летапіс». Яго кінастужка «Тэатр часоў перабудовы і галоснасці», што выйшла ў другой палове 80-х гадоў, выклікала эфект узарванай бомбы сваёй яркай публіцыстычнасцю, смеласцю, грамадзянскай мужнасцю. Яна ж стала прычынай судовага разгляду, які выйграў рэжысёр.

Другая нашумелая стужка, знятая Аркадзем Рудэрманам разам з Юрыем Хашчавацкім, — «Сустрэчны іск» — пра Алеся Адамовіча. Фільм заваяваў Гран-пры на Міжнародным кінафестывалі дакументальнага кіно ў Ленінградзе.

У Таджыкістане Рудэрман здымаў новы фільм. Пра вайну. Пра процістаянне прыхільнікаў экс-прэзідэнта Набіева і апазіцыі. Адным з герояў фільма павінен быў стаць лідэр апазіцыі, старшыня Канфедэрацыі саюза кінематаграфістаў Даўлат Худаназараў. Гэтаму фільму суджана было стаць апошнім.

У Мінску засталася сям'я Аркадзя Рудэрмана: жонка і сын-школьнік.

...На паўслове абарваўся самабытны таленавіты голас, які гаварыў жорсткую праўду пра сённяшні дзень.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## РАДЫЁФАКТ

Аб'явіць забастоўку з 1 кастрычніка вырашыў савет стачачных камітэтаў Салігорскага вытворчага аб'яднання «Беларуськалій». З такой пагрозай ён выступіў у адрас урада рэспублікі. Прычына забастоўкі: урад і адміністрацыя аб'яднання не выконваюць умоў часовага пагаднення, дасягнутага ў час веснавой забастоўкі шахцёраў. У прыватнасці, як лічаць шахцёры, ім не індэксуецца заработная плата, не персаніфіцыруецца сацыяльнае страхаванне, не выплачваецца частка зарплаты ў валюце.

***

22 верасня ў ходзе дагляду поезда № 9 Масква—Варшава пагранічным нарадам пагранічнага кантролю Брэст - Пасажырская станцыя-2 затрымана буйная кантрабанда—700 слоікаў чорнай ікры на суму 79 тысяч 100 рублёў.

## БЕЛАРУСЬ—ТУРЦЫЯ: АРЫЕНТАЦЫЯ НА ЕЎРОПУ

**УЧОРА У МІНСКУ БЫЛО ПАРАФІРАВАНА ПАГАДНЕННЕ АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ Ў ГАЛІНЕ АДУКАЦЫІ, НАВУКІ, КУЛЬТУРЫ І СПОРТУ ПАМІЖ РЭСПУБЛІКАМІ ТУРЦЫЯ І БЕЛАРУСЬ**

У невялікім інтэрв'ю, якое даў беларускім журналістам памочнік намесніка замежных спраў МЗС Турцыі па пытаннях культуры, пасол Гісмет Бірсель, ён сказаў, што Беларусь — гэта краіна, якая гатова шырока адкрыць дзверы для супрацоўніцтва.

— Мы з Турцыі бачым, што патэнцыял Беларусі вельмі вялікі ў адукацыі, навуцы, культуры. Нашы краіны, Беларусь і Турцыя, арыентуюцца на інтэграцыю з краінамі Еўропы. Але быць у Еўропе не азначае, што мы павінны губляць свае культурныя каштоўнасці, Еўропа стане багацейшай культурна, калі яна будзе ахопліваць разнастайнасць культур. Я пакідаю Беларусь пасля таго, як мы знайшлі еўрапейскага партнёра, які мае такія ж мэты міру і стабільнасці, як і Турцыя.

**Кар. «Звязды».**

**Сёння першы дзень урачыстасцей, прысвечаных 1000-годдзю Праваслаўнай царквы на Беларусі. «Звязда» будзе падрабязна асвятляць святкаванні ў розных гарадах рэспублікі. Для пачатку мы вырашылі апублікаваць матэрыял, які, на першы погляд, не вельмі падыходзіць да святочнага настрою, бо гаворка ў ім ідзе аб нядаўнім замаху на святара Жодзінскай царквы айца Алексія Шынкевіча. Але за трагічнасцю падзеі трэба бачыць яскравы прыклад адданасці пастыраў царквы справе духоўнага адраджэння Беларусі. Прыклад новай ролі царквы ў нашым жыцці.**

**«Звязда» першай паведаміла пра крывавую ноч у Жодзіна і абяцала ў хуткім часе данесці да чытачоў падрабязнасці. Наш спецыяльны карэспандэнт пабываў у бальніцы, дзе цяпер знаходзіцца айцец Алексій. Змяшчаем іх кароткую гутарку і аўтарскі каментарый.**

# «Застаюся жыць...»

— Паважаны айцец Алексій, пасля нашага паведамлення пра выпадак у Жодзіна ў рэдакцыю званілі многія чытачы, занепакоеныя Вашым здароўем. Як стала вядома, малітвы аб Вашым хутчэйшым выздараўленні былі прачытаны ва ўсіх праваслаўных храмах Беларусі.

— Дзякуй за ўвагу. Адчуваю сябе ўжо лепш, хоць медыкі забаранілі ўставаць на працягу двух тыдняў. У палаце, як бачыце, абжыўся: побач са мною на сцяне павесілі ікону Святой Маці Боскай. Лечаць добра.

— Цяпер, калі на бінтах яшчэ не высахла кроў, што Вы думаеце пра ўдзельнікаў бандыцкага налёту?

— Нянавісці да іх не маю: гэта не хрысціянскае пачуццё. Ім трэба дараваць, бо людзі часта не ведаюць, што робяць. Непакоіць іншае: у грамадстве пачасціліся замахі на жыццё, такіх фактаў усё больш на ўсіх шыротах былога Саюза. Гэта сведчыць пра адсутнасць у нашых душах умення карыстацца атрыманай свабодай.

**Спакуса свабодай — так у двух словах вызначае мой суразмоўца сутнасць нашых шматлікіх бед. Замах на жыццё святара ва ўсе часы і ва ўсіх народаў лічыўся самым цяжкім злачынствам. Ці можа свабода быць сапраўднай, калі яна нараджае нечалавечую жорсткасць. Чаго, нарэшце, вартыя ўсе нашы новыя законы, калі сярод нас, як і ў ранейшыя часы, вольна адчуваюць сябе гвалтаўнікі і забойцы?**

— Айцец Алексій, вядома, не вельмі гэта прыемна, але ўсё ж нагадайце, як усё адбылося.

— Я заўсёды адчыняю дзверы на першы званок. Так было і на той раз, калі з калідора жаночы голас папрасіў дапамагчы. Не стану пераказваць жорсткія падрабязнасці. Калі гэтыя людзі здзекаваліся і білі, я толькі паўтараў: вы не зможаце забіць мяне. Як бачыце, калі пацаспела міліцыя, я яшчэ быў жывы.

**Сапраўды, не варта пераказваць падрабязнасці зверынай жорсткасці. Па-першае, гэта можа перашкодзіць следчым, па-другое, у нечалавечнасці заўсёды аднолькавае аблічча, дзе б яна ні ўчынялася. У свой час сталі шырока вядомыя забойствы рускага святара пратаіерэя Меня, польскага ксяндза Папялушкі. Гэтыя і многія іншыя факты сведчаць: духоўнаму адраджэнню ў любой краіне заўжды процістаяць цёмныя сілы. Айцец Алексій за апошні час стаў (не перабольшу!) самым папулярным чалавекам у Жодзіна. Гэта ён дбаў пра ўзвядзенне і добраўпарадкаванне мясцовай царквы, пасвячаў людзей у забытыя імі адвечныя законы хрысціянства, ён (які сам рана застаўся без бацькоў і зведаў тугу дзіцячага дома) стаў лепшым сябрам для выхаванцаў гарадскога інтэрната, справай дапамагаў адзінокім, бедным, цяжка хворым. У яго царкву ўсё часцей сталі заходзіць людзі іншых веравызнанняў, каб у згодзе памаліцца побач з братамі праваслаўнымі.**

— Айцец Алексій, магчыма, каму-небудзь Ваша дзейнасць была не даспадобы?

— Так, тэлефонныя званкі з пагрозамі здараліся. Але я на іх не звяртаў і не стану звяртаць увагі. Так і напішыце ў газеце: я не баюся. Я застаюся жыць на карысць людзям.

**Шмат трэба высветліць следчым органам у гэтай справе — складанай, але не новай для нашай гісторыі.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

**На здымках:** айцец Алексій у бальніцы; не апусцела царква без святара, прыхаджане моляцца за яго хутчэйшае выздараўленне.

**Фота аўтара.**

